# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (263) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 12 САКАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## ВЫБАРЧАЯ ПЛАТФОРМА ФРОНТА АДЗІНСТВА НАРОДА

**16** красавіка на ўсеагульных выбарах будзем выбіраць новы Сейм і новыя рады нарадовыя.

Напярэдадні гэтага важнага выбарчага акту ўсе грамадскія і палітычныя сілы, якія ўтвараюць Фронт адзінства народа выказваюць супольныя погляды ў галоўных справах радзімы. Ад самага вызвалення краіны распачата пабудова новага, сацыялістычнага ладу з тым перакананнем, што толькі народная ўлада можа вывесці Польшчу з адсталасці і гарантаваць ёй незалежнасць, грамадскую справядлівасць, развіццё гаспадаркі і культуры.

Сёння мы ганарымся нашымі дасягненнямі: хуткім грамадскім і гаспадарчым прагрэсам, новымі галінамі прамысловасці, патэнцыял якой у 7 разоў большы ад даваеннага. Ганарымся адбудаванай з папялішч Варшавай, загаспадараваннем Заходніх зямель, новымі гарадамі і пасёлкамі, школамі і навуковымі ўстановамі, растучымі кадрамі таленавітых спецыялістаў, шырокімі сацыяльнымі правамі.

Паспяхова таксама выкананы заданні, намечаныя гаспадарчым планам на мінуўшае пяцігоддзе. Больш гарманійна развівалася наша прамысловасць, хутчэй расла сельскагаспадарчая вытворчасць, больш дасканалым стала планаванне. Мы навучыліся лепш працаваць, разумней гаспадарыць і жыць больш культурна. Узраслі зарплата і даходы насельніцтва.

Сёння ўсе людзі, якія маюць на думцы будучыню краіны, перакананы ў правільнасці дарогі, па якой ідзем, і згуртаваліся ў Фронце адзінства народа, вакол яго вядучай сілы — партыі рабочага класа.

Прамысловы патэнцыял Польшчы і яе гаспадарчыя магчымасці дазваляюць, а патрэбы народа прымушаюць падняць новыя амбітныя мерапрыемствы ў галіне развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры. У бліжэйшым пяцігоддзі колькасць моладзі ва ўзросце 14—17 год павялічыцца амаль на мільён. Гэтай моладзі дзяржава абавязана запэўніць магчымасць навукі, здабыццё прафесіі, падрыхтаваць месца працы і памяшканні.

Таму краіне неабходна разбудаваць і мадэрнізаваць існуючыя прадпрыемствы, а адначасова будаваць сотні новых фабрык, электрастанцый і шахт.

Больш чым дагэтуль сродкі, больш машын, прыладаў, мінеральных угнаенняў будзе прызначацца на развіццё сельскай гаспадаркі і ўздым яе культуры.

Плануецца на працягу пяцігоддзя пашырыць вытворчасць прамысловасці больш чым у два разы. Працэс развіцця прамысловасці агорне новыя абшары краіны, дагэтуль слаба развітыя.

Развіццё тэрытарыяльнай прамысловасці і рамясла будзе садзейнічаць гаспадарчаму і культурнаму ажыўленню пасёлкаў і мястэчак.

Адна з найбольшых у Еўропе цеплаэлектрацэнтраляў у Турашаве будзе ператвараць у электраэнергію залежы бурага вугалю. Новыя шахты дадуць мільёны тон каксуючага вугалю. Успыхнуць новыя доменныя печы і мартэны. А вытворчасць сталі складзе звыш 9 мільёнаў тон. Разгорнуцца магутныя працы ў Ніжне-Шлёнскім басейне медзі. Сотні тысяч тон тарнабжэгскай серкі падмацуе хімічную прамысловасць краіны і будзе экспартавацца. Пачнецца рэгуляцыя Віслы і

(Працяг на стар. 3)

Пленум пяцігоддзя



Ад беларускай эстрады «Лявоніха» кветкі старшыні ГП БГКТ Лідзіі Бялецкай.

фота — Г. Рагазінскі

Пленум пяцігоддзя



Удзельнікі ўрачыстага пленарнага пасяджэння ГП БГКТ, якое адбылося 26 лютага г. г., у пятую гадавіну заснавання Таварыства.

фота — Г. Рагазінскі

## ЁСЦЬ ЧЫМ ГАНАРЫЦЦА

**Н**абліжаюцца выбары да Сейму і да рад нарадовых. У кожным павеце шмат маюць працы камітэты Фронта адзінства народа. Яны ўжо апрацавалі павятовыя выбарчыя праграмы, у якіх паказаны дасягненні павета за 16 год народнай улады, дасягненні апошняй кадэнцыі рад нарадовых, а таксама заданні новай нашай пяцігодкі, якая ахоплівае сабою 1961 — 65 гады. У гэтым артыкуле пакажам некаторыя дасягненні і далейшыя перспектывы Гайнаўскага павета.

Да 1939 года на тэрыторыі сённяшняга Гайнаўскага павета існавала 47 школ і ў гэтым ліку было толькі 7 сямікласных школ. Астатнія былі чатырохкласныя. Зараз тут 80 школ, у гэтым 47 сямікласных. За народнай улады хутка ўзрасла сетка школ, павялічыўся лік настаўнікаў, умацавалася матэрыяльная школьная база. У мінулым дзеці сялян і рабочых рэдка маглі закончыць поўную пачатковую школу. Зараз створаны ўсе ўмовы, каб кожнае дзіцё ў сваёй мясцовасці закончыла сем класаў. Такім чынам ажыццявіўся дзяржаўны закон аб усеагульным сямікласным абучэнні.

**У** чатыры разы на Гайнаўшчыне ўзрасла колькасць сярэдніх школ. Да вайны ў павеце не было сярэдніх школ. Цяпер сярэдніх школ чатыры. Гайнаўская вёска атрымала вялікі грамадскі аванс. Як прыклад можа паслужыць вёска Човаберазова. Зараз з гэтай вёскі 8 асоб вучыцца ў сярэдніх школах і 5 у вышэйшых установах. Закончыла розныя сярэднія школы 19 асоб, і зараз яны працуюць на адказных пасадах. Вышэйшыя ўстановы ўжо закончыла 9 чалавек.

**Г**эта велізарныя дасягненні ў параўнанні з гадамі санацыйнай Польшчы.

Дзяржава агромныя сумы прызначае на будаўніцтва школьных памяшканняў. За 16 год пабудавана шмат новых сучасных школ, як у Чарэмсе, Дашах, Саках, Тапілы, Гайнаўцы, Альхоўцы, Семяноўцы, Крыўцу, Трэсцянцы і Збучу. Распачата будова ў Моры, Іванках і Ляшуках. Апрача таго дабудавана часткі школ у Гайнаўскай школе № 1, Вітаве, Навасадах і Скупаве. У 15 школах праведзена капітальныя рамонты.

**У** цяперашняй пяцігодцы запланавана пабудаваць 97 лекцыйных залаў. Кошт гэтага будаўніцтва складае суму 18.300.000 зл.

Зараз Гайнаўшчына зусім не тая, што была 16 год таму назад. У кожнай вёсцы ёсць шмат адукаваных людзей. Назаўсёды пакончана з непісьменнасцю. Падрастаючае пакаленне абавязана мець закончаных прынамсі сем класаў пачатковай школы. У будучым навучальным годзе ўсюды будзе ўведзены закон аб васьмігадовым абучэнні ўсіх дзяцей.

**К**ожная школа з'яўляецца на Гайнаўшчыне не толькі цэнтрам асветы, але таксама цэнтрам культуры. Пры школе існуюць мастацкія гурткі самадзейнасці. Культурнае жыццё вёсак гуртуецца таксама ў дамах культуры і святліцах. І так, зараз у Гайнаўцы ёсць два дамы культуры, 6 святліц у павеце, у якіх працуюць штатныя працаўнікі. Апрача таго існуе 10 вясковых святліц, якія з'яўляюцца цэнтрамі развіцця мастацкіх калектываў—іх зараз налічваецца 30. У гэтай пяцігодцы будуць

(Працяг на стар. 3)

# СУСЕДЗІ СОНЦА

Наша планета — спадарожнік Сонца. З дакладнасцю гадзінкавай стрэлкі робіць яна свой рух у сусветнай прасторы. Разам з ёй вакол Сонца рухаюцца восем іншых планет. Усё гэта — халодныя нябесныя целы, якія здаюцца светлымі кружкамі на небе толькі таму, што адлюстроўваюць святло Сонца. У той жа час планеты даволі моцна адрозніваюцца адна ад другой і па сваёй прыродзе і па фізічных умовах, якія існуюць на іх паверхні.

Калі дыяметр Зямлі складае крыху больш 12,5 тысячы кіламетраў, то дыяметр самай вялікай планеты сонечнай сістэмы — Юпітэра — больш 143 тысяч кіламетраў. Унутры Юпітэра маглі б размясціцца 1 345 зямных шароў. Бліжэйшы сусед Сонца — Меркурый — самая маленькая планета сонечнай сістэмы. Яе дыяметр у два з лішнім разы меншы, чым дыяметр нашай Зямлі.

Па сваіх размерах усе планеты дзеляцца на дзве групы, якія рэзка адрозніваюцца адна ад другой. Так званыя ўнутраныя планеты — Меркурый, Венера, Зямля і Марс — параўнаўча невялікія, і Зямля — найбольшая з іх. Знешнія планеты — Юпітэр, Сатурн, Уран і Нептун — валодаюць гіганцкімі размерамі. Асабліва месца займае дзевятая па адлегласці ад Сонца планета — Плутон: яе размеры вельмі невялікія.

Амаль усе планеты, за выключэннем Меркурыя, Венеры і Плутона, з'яўляюцца цэнтрамі маленькіх касмічных сістэм, якія ў мініятуры паўтараюць сонечную. Вакол іх рухаюцца іх спадарожнікі. У Юпітэра — дванаццаць спадарожнікаў, у Сатурна — дзевяць, у Марса — два, у Зямлі — адзін — Месяц.

Наяўнасць прыроднага спадарожніка ў Зямлі служыць прычынай раду з'яў, якія адбываюцца на паверхні нашай планеты. Да іх ліку адносяцца месячныя прылівы, якія тармозяць вярчэнне Зямлі і зацьменні Сонца. Як і ўсякае непразрыстае цела, асветлены Сонцам Месяц адкідвае цень у сусветную прастору. І калі ён апынаецца паміж Зямлёй і Сонцам, цень гэты трапляе на паверхню Зямлі. У гэтым месцы і назіраецца зацьменне Сонца.

Поўныя зацьменні Сонца — з'ява даволі рэдкая. У адным і тым жа раёне роўныя зацьменні паўтараюцца ў сярэднім толькі праз 300 — 400 год. Гэта тлумачыцца тым, што плоскасць, у якой рухаецца Месяц, некалькі нахілена да плоскасці руху Зямлі. Таму ў большасці выпадкаў цень Месяца праходзіць міма нашай планеты, не закранаючы яе.

Назіранне поўнага сонечнага зацьмення прынясло навуцы новыя важныя звесткі аб прыродзе самога Сонца, аб будове нашай сонечнай сістэмы.

## Ці ведаеце што?

■ Жыхары нашай краіны ў 1960 годзе выпілі 700 мільёнаў літраў піва.

■ Былы дыктатар Кубы Бацiста вядзе размовы з акцёрам Бумам Кронным адносна пакупкі астраўка «Хільдрэнсбаў» на Багамах. Кошт яго паўмільёна долараў.

■ У 1960 годзе ў нашай краіне прадана звыш 45 мільярдаў штук папяросаў. Штогод у нас адзін чалавек «спажывае» каля 1500 штук папяросаў; у Аўстрыі—1100 штук; у Югаславіі — 1000; у Італіі — 900; а у ЗША аж 4500 штук.

■ У Венгрыі жыве блізка 26 тыс. чалавек, якія маюць больш 95 гадоў. Венгерскі ўрад пастанавіў правясці спецыяльныя даследаванні, якія выяснілі б гэтую з'яву.

■ Адзін авіяносец каштуе столькі, колькі 2 750 тыс. тон пшаніцы. Адзін рэактыўны бамбардзіроўшчык каштуе столькі, колькі 100 тысяч тон цукру. Адна падводная лодка столькі, колькі 55 тысяч тон мяса.

■ Тры шклянкі каняку выпіла пані Дiаз з Буэнас-Айрэс (Аргентына) у 121 гадавіну нараджэння. На гэту ўрачыстасць прыбыло яе 23 унукі і 24 праўнукі.

У дзень свайго юбілея пані Дiаз пастанавіла адзвычаіцца ад курэння папяросаў.

■ Чэхаславацкая Сацыялістычная Рэспубліка стала пятай дзяржавай, дзе ўжо цалкам закончана электрыфікацыя вёскі. 4 верасня мінулага года была электрыфікавана апошняя вёска — Баня.

Карысныя парады

## Калі дапамагае лімон

■ Калі ў вас тлустыя валасы: дадайце лімонны сок у ваду, якой вы спалоскваеце валасы.

■ Калі скура твару выглядае ў вас вялай (друзлай), трэба пакласці некалькі лустачак лімона ў ваду, якой вы збіраецеся мыць твар, памыць ёю твар (без мыла), і скура стане зноў гладкай і пругкай.

■ Калі вашы рукі выглядаюць дрэнна пасля чысткі гародніны: пацерці пальцы кавалачкам лімона, і яны ўжо выглядаюць зусім чыстымі!

■ Калі ў вас тлустая скура твару: штодзённа праціраць палавінкай лімона і гэта цалкам выправіць становішча.

# НАФТАПРАВОД—ГІГАНТ




Сусветная дабыча нафты за апошнія 10 год у два разы павялічылася і ў гэтым годзе напэўна перакрочыць 1 мільярд тон. Польскія залежы нафты невялікія. Даюць яны ў год 200 000 тон. Запатрабаванне нашай краіны пакуль што на 2 500 000 тон. Але гэта праблема будзе поўнасцю вырашана, калі будзем атрымоўваць нафту па Плоцкаму нафтаправоду з СССР. Над Бугам Плоцкі нафтаправод спалучыцца з галоўнай артэрыяй, якая будзе дастаўляць нафту з адлеглых багатых савецкіх палёў у дузе Волгі і Камы. За некалькі год з гэтых нафтавых крыніц карыстаць будзе аж пяць краін: СССР, Польшча, ГДР, Чэхаславакія і Венгрыя. Нафтавая дарога возьме свой пачатак у Куйбышаве. Адна яе ветка (4 000 км) вядзе да Польшчы і ГДР, а другая да Чэхаславакіі і Венгрыі. Польшча будзе атрымоўваць 6 000 000 тон нафты штогод.

Выпрадукаваная ў Ленінградзе паходная газавая кухня. Адзін балон разлічаны на суткі бесперапыннай работы пліты.

# ШТО ЗНАЧЫЦЬ СТАЯ САРАНЧЫ?

«Зямля перад саранчой — як квітнеючы сад, ззаду — дзікая пустыня. Нішто не збавіцца ад саранчы. Яна скача з шумам падобным да трэску полымя, што спальвае сухую траву... перад саранчой нябёсы задрыжаць, сонца і месяц памеркнуць і звёзды страцяць свой бляск».

(Са старажытных запісаў)



Ляціць саранча.

Колькі важыць адзін саранчук? Толькі каля 2 грамаў. А колькі ж саранчукоў можа быць у адной стаі? І тут чакаюць чытача дзівы дзіўныя, але праўдзівыя.

**Навуковыя доследы ўстанавілі вагу адной вялікай стаі саранчы, якая выражаецца лічбай 44 000 000 тон (сорак чатыры мільёны тон).**

Такую масу насякомых, ды яшчэ ў адной стаі, цяжка ўявіць. Можа дапамогуць гэтаму іншыя цыфры. **Адна вялікая стая саранчы важыць столькі, колькі важыць 700 000 000 чалавек.**

У палёце адна такая стая займае плошчу больш паўмільёна гектараў.

Стаі саранчы падымаюцца вельмі высока (да паўтары тысячы метраў), могуць рабіць далёкія палёты без адпачынку. Так, у 1945 г. адна стая саранчы пераляцела з заходняй Афрыкі проста ў Іспанію і Партугалію на адлегласць 1250 км за 28 гадзін, г. зн. з хуткасцю 45 км у гадзіну і ніразу не сядала па дарозе.

Саранча з'яўляецца страшным бічом многіх краін Азіі, Афрыкі Паўднёвай Амерыкі.



Так яна выглядае зблізку.

# МОДА



Асеннее мужское паліто ў далікатную клетку.

## ЭЛЕКТРОННЫ ЛЕКАР

Электронную машыну да ўступнага распазнавання хвароб падрыхтавала група н'ю-йоркскіх лекараў. Доктар Кээвэ Бродман і яго супрацоўнікі правялі ёю 350 доследаў над хворымі. Машына атрымала даныя аб паасобных пацыентах. Памылкі машыны складалі 5 прац. агульнай колькасці ўстаноўленых указанняў, памылкі ж у лекарскай дыягнозе не перавышалі граніцы 2 працэнтаў.

Падобную машыну сканструявалі ў Савецкім Саюзе. «Электронны лекар» на аснове дастаўленых яму матэрыялаў распазнае каля 100 розных хвароб.

## «Р. 1127»

Новы рэактыўны самалёт «Р. 1127», пабудаваны ў Англіі, можа стартаваць перпендыкулярна, а пасля нармальна лётаць. Перавага перпендыкулярнага старту для рэактыўных самалётаў заключаецца ў тым, што доўгія стартавыя паясы будуць зусім непатрэбныя.







«У сувязі з замардаваннем Патрыса Лумумбы клікай бандытаў Чомбе і Мабуту хачу навязаць з «Нівай» супрацоўніцтва. Хто любіць і шануе мір, той не можа абыякава глядзець на карціну, якая разыгралася ў Конга. Я не іду ў натоўпе дэманстрантаў; не маем перад кім дэманстраваць, але прамаўчаць такое злачынства не магу. Тамy высылаю сваю нянавісць да разбойнікаў у сваім малюнку і вершы».

**(З ліста ў рэдакцыю)**




Я не хачу тваіх пладоў!
У нас расце свой новы сад.
Вярніся, дзядзька, ідзі дамоў!
Не раіш ты, а творыш ад.

Ты Гамаршэльд — бандыт, зладзей
Твой плод крывавы горкі нам...
А хто ж там за табою ідзе?
Найгоршы звер, найгоршы хам.

**Сяргей Ціханюк — Нараўка**

Спакойна і ціха было ў нашай вёсцы. Раптам аб выбарчай кампаніі загаварылі.

Бабы ўзнялі шум аб раўнапраўным, актыўным удзеле жанчын у палітычным жыцці.

Мэтай гэтага шуму была агітацыя за кандыдатуру жанчыны на пасаду старшыні грамадскай рады. Хутка кандыдатку падшукалі — Марту актывістку, якую ў мінулым пяцігадовым плане ніхто замуж не браў.

Зразумела, што нас, мужчын, чорная роспач ахапіла. Дапусці баб да ўлады, дык яны чорт ведае чаго могуць натварыць. Могуць, напрыклад, забараніць прадаваць гарэлку ў гэсе, агранічыць курэнне, а калі грамадскай працай зоймуцца, дык у хатах Садома з Гаморай будзе. Пачнуць бабы на розных сходах абмяркоўваць ды спрачацца, а для нас, мужчын, давядзецца ў хатняй рабоце корпацца. Памый пасуду, каровы выдаі, свіней пакармі, дзяцей падцірай, адным словам свет дагары нагамі.

Зразумела, мужчыны захваляваліся ў вёсцы. На жаль, жаночае насельніцтва ў нас на шэсць галасоў перавышае мужчынскае. Як з гэтай справы выкруціцца?

А тут яшчэ з павета пачалі прыязджаць усялякія бабкомы, ды ініцыятыву нашых жанчын падтрымоўваць.

Напісалі мы заяву каменданту міліцыі.

— Дапамажыце, маўляў, баб супакоіць.




Атрымалі бюракратычны адказ, што такая справа не прадугледжана адміністрацыйным кодэксам.

Вось бачыце, людзі добрыя, у цэнтральных гарадах адміністрацыйная ўлада тварам да грамадзян паварочваецца, а ў нашай вёсцы адварочваецца, ды пажаліцца няма каму.

Вясковай святліцы ў нас няма. Таму мужчыны сабраліся ў буфеце ГС пагаварыць на тэму бабскага загавору ў выбарчай кампаніі.

Гаворым мы гэтак, халоднымі катлетамі закусваем, лупім крутыя яйкі ды думаем, як паступіць з выбарамі. Буфетчык таксама захваляваўся. Нават крэдыт нам адкрыў. Вынюхаў, што калі бабы верх возьмуць — буфет збанкрутуе.

Калі дыскусія разгарэлася, менш актыўныя грамадзяне спасавалі. Хто задрамаў на крэсле, хто пад сталом расцягнуўся, але дзеля мужчынскай салідарнасці ніхто не хацеў пакідаць сходу. Зразумела, што не ўсім аратарам мы верылі. Другі чалавек грудзі выпучвае, калясом па буфеце ходзіць, а дапляцецца дахаты, дык перад бабай дугой згібаецца.

Старшыня грамадскай рады ўжо мо' дзесяты раз за самакрытыку прымаўся, але і гэта не кранала справы з месца.

У гэты крытычны момант з'явіўся наш Кастусь. Ён у міг зразумеў справу, выпіў душком паўлітра, панюхаў хлебную скарыначку ды кажа: — Мілыя грамадзяне, грамадзяне бітыя ды не бітыя бабамі, каб я з гэтага месца не зышоў, каб я больш памёршых бацькоў не пабачыў, калі мне не верыце, набіце мяне балгарскімі папяросамі. Я вас выручу! Давайце пусцім слух, што ў горадзе ў дзень выбараў будуць даваць новую тканіну «эляну» па тры дзесяткі за метр. Ніякая модніца супроць гэтага не ўстоіць. А ў нас жа штук дваццаць модніц налічыцца. Паедуць яны ў горад, вернуцца ноччу, а ў нас большасць галасоў будзе.

Зразумела, мы Кастуся шугалі і на руках праводзілі. На руках таму, што некаторыя ад радасці на нагах не трымаліся.

І падумайце толькі, людзі добрыя, як адна разумная галава паралізавала ўсю бабскую перадвыбарчую кампанію

*Дзядзька Лявон*

### НА БЕРАЗЕ РАКІ

Берагам ракі ішоў міліцыянер. Раптам убачыў ён нейкага мужчыну, які штораз глыбей апускаецца ў ваду.

— Зараз жа вылезце з ракі, тут не дазволена купацца! — звяртаецца да гэтага грамадзяніна міліцыянер.

— А я зусім не купаюся, я таплюся, — адказаў той.

**Янка Весялоўскі**
Пасынкі

### НАРАЧОНЫ

Адна дзяўчына сустрэла сяброўку і расказвае ёй аб сваім нарачоным:

— Я яму сказала, што не хачу больш яго бачыць на вочы.

— А ён што? — пытае тая.

— А ён згасіў святло.

**П. Мартынюк**
Варшава

### КУДЫ ЯНЫ ДЗЯВАЮЦЦА

— Скажы, тата, ці гэта праўда, што на Месяцы жывуць людзі? — пытаецца сын у бацькі.

— Магчыма, жывуць, адказвае бацька.

— Але куды яны дзяваюцца, калі Месяц робіцца вузенькім?

**Васіль Іванюк**
Плюцічы

### НАСТАЎНІК І ВУЧАНЬ

Настаўнік кажа да вучня:

— Чаму спіш на ўроку?

— Я вельмі змучаны, — адказаў вучань.

— Ты змучаны? — здзівіўся настаўнік. — Гэта ж цэлую ноч спаў!

— Так, але мне цэлую ноч снілася, што я вучуся. Дык можаце сабе ўявіць як 10 гадзін вучобы мучыць чалавека.

**Ігар Міхноўскі**
Бельск

### ЯКІ ГЭТА ЧАС?

Настаўнік пытае Валодзі: — Ну скажы ты мне, хлопча, які гэта будзе час — я стаю, ты стаіш?

— Страчаны, — адказаў Валодзя.

**Мікалай Іляшук**
Атвоцк

### ЯК ДАЎНО

— Вы даўно ўжо ўдавою?

— Ды з таго часу, як муж памёр.

**Юрка Скепка**
Альхоўка



**— Мая слабасць гэта гангстэрсва. Па-цывільнаму я інжынер.**

### ПРАГРЭС

Да аднога гаспадара прышоў жабрак. Калі ён скончыў маліцца, гаспадар даў яму салідны кавалак хлеба.

— Я хлеба не бяру, — кажа жабрак, — дайце мне саланіны, яек, ці грошай, а то хлеб вельмі цяжкі.

Незадаволены гаспадар дае жабраку пару яек і пытае:

— Што гэта такое, калісь жабракі маліліся даўжэй і не вымагалі таго, што цяпер, былі задаволены кавалкам хлеба.

— Ну, што ж, цяпер свет стаў больш прагрэсіўным, — сказаў жабрак і чым хутчэй вышаў.

**Канстанцін Белюк**
Сідарка



**Чаму не скачаш?**

# КАРЧМАР - АШУКАНЕЦ

**(ГУМАРЭСКА)**

Адзін чалавек адкрыў карчму на скрыжаванні дарог. З усіх старон з'язджаліся змучаныя дарогай людзі, затрымліваліся ў карчме, выпівалі па шклянцы віна. Спачатку карчмар прыносіў сваім гасцям віно, толькі трошкі разбаўленае вадой. А калі пераканаўся, што падарожнікі не вельмі разважлівыя, пачаў падносіць ім ваду, толькі чуць падфарбаваную віном. Прайшоў адзін год. У карчмара кашалёк біткам набіты чырвонцамі. Закрыў ён сваю карчму і адправіўся дамоў. Паходзіў ён з далёкай заморскай зямлі. Дайшоў багаты карчмар да мора, купіў у горадзе малпачку для забавы і сеў на судна. Паплыло судна па моры. Настаў час абеда. Карчмар рассеўся ў суднавой сталоўцы. Сам з'ядае розныя смачныя стравы, а сваёй малпе толькі некалькі арэхаў кінуў. Наеўся даадвалу, выйшаў на палубу і лёг, каб падрамаць. Але тут успомніў пра свае чырвонцы. Выняў ён кашалёк з-за пазухі і палажыў пад галавою — у бяспечнае месца. Малпачка ў гэты час сядзела побач, галодная, вачэй з яго не спускала. Вось бачыць яна, што гаспадар схаваў кашалёк пад галаву і думае: «Напэўна ў яго там ежа».

Чакае і не можа дачакацца той хвіліны, калі гаспадар засне. Аднак урэшце ён заснуў. Тады малпачка падпаўзла да яго і ціха выцягнула кашалёк з-пад галавы. Усадзіла ў кашалёк лапку, выняла чырвонца. Паглядзела, спрабавала яго на зуб, бачыць не даецца есці. Раззлавалася яна тады, схапіла кашалёк, пакруціла ім над галавой і кінула ў мора. А тут якраз карчмар прачнуўся, ускочыў на ногі, бачыць — кашалёк з чырвонцамі падае ў мора, вось ужо і на дно пайшоў. Абмер карчмар, за галаў схапіўся. Нечакана побач яго з'явіўся адзін селянін, які часта заходзіў у карчму на скрыжаванні. Паглядзеў ён на карчмара і кажа:

— Не хвалюйся, браток. Тваё чырвонцы вада табе прынясла, вада і забрала.

**ЯНКА КЛІМЮК**
**Дубічы Царкоўныя**